Год V. Верасень № 9 (56).

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі.“

ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1933 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны —Вільня, Завальная вул. № 1

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — A, a. | J, j — Й, й. | R, r — P, p. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — C, c. |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — E, e. | Ś, ś — СЪ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | S, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — K, к. | T, t — T, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — M, м. | V, v — B, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — H, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — X, x. | O, o — O, o. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I, i — I, i. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |

„Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр.
„ на паўгода. . . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . . . 2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрэс Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 1 — 3
Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год V. | Вільня, Верасень 1933 г. | № 9 (56). |
|---|---|---|

## Вучэмося і навучайма.

Дзяржавы, дбаючыя аб сваё развіцьцё і разумеючыя патрэбу асьветы для шырокіх народных масаў, увялі ў сябе прымусовае элемэнтарнае навучаньне дзяцей кожнага грамадзяніна. Навучаньне гэта трывае ў іх нават па 9 і 10 гадоў. За іх прыкладам пашла і Польшч і ўвяла ў сябе таксама прымусовае навучаньне дзяцей, якое мае трываць 7 гадоў. Прыгожы аднак гэты закон добра выглядае толькі на паперы, — фактычна ёсьць з ім зусім іначай.

Вось-жа, паводле апошніх падлічэньняў, паданых польскай прэсай, у сучасны мамэнт у Польшчы каля мільёна дзяцей ня толькі ня прымушаных да навукі, але зусім пазбаўленых магчымасьці здабываньня яе пры найлепшай ахвоце. Сталася гэтак з прычыны нястачы школаў. Нястачу гэту перадусім адчувае бязумоўна вёска і то вёска беларуская, якая агулам найбольш закінутая і забытая. Тыя-ж школы, што ёсьць—таксама не такія, як прадбачыць закон. На вёсцы школы пераважна т. зв. 4 клясавыя, а часьцей нават 2 клясавыя, замест 7 клясавых, якія зьяўляюцца бадай-што рэдкасьцяй, знаходзячыся толькі па правінцыянальных цэнтрах — мястэчках, да якіх ізноў сялянскім дзецям трудна дабрацца. Агулам справа навучаньня беларускіх дзяцей выглядае цалком ненармальна.

Беларуская моладзь, якая з малых дзён гавора толькі пабеларуску і толькі гэту мову разумее, сягоньня можа вучыцца толькі ў школе польскай, дзе навука вядзецца ў мове польскай, для іх незразумелай. У такіх варунках школа ніколі ня можа даць добрых вынікаў і выбівае дзіцё з яго нармальнае дарогі. Школ-жа беларускіх так як і няма.

Дзеля гэтага іменна найбольшы лік анальфабэтаў будзе прыпадаць на беларусаў.

Сумнае гэтае зьявішча добра разумеюць беларускія культурныя арганізацыі і ўжо рыхтуюцца да арганізаванага змаганьня з цемрай і да пашыраньня сьвятла і веды сярод беларускае моладзі. Акцыя гэта, дзякуючы цяжкім матэры-

яльным варункам, у якіх знаходзяцца гэтыя арганізацыі, ня здолее аднак ахапіць усіх сялянскіх хат і ўкінуць у іх прамень сьвятла. І вось тут патрэбна помач беларускіх вясковых інтэлігентаў, а так-жа самых бацькоў і старэйшай моладзі, якія маюць сякую-такую асьвету. Яны павінны вучыць дзетак граматы беларускай, каторая, будучы бліскай і зразумелай, дасьць належныя вынікі. Рабіць гэта можна пры помачы беларускіх лемантароў: „Зоркі" і „Пішы самамадзейна," ды агулам добрых кніжак і часопісаў, якія можна выпісаць з беларускіх кнігарняў. Вучыць дзяцей прыватна ў хаце без дазволу школьных і адміністрацыйных уладаў можна цэлымі групамі, да 10 асоб уключна.

Апроч гэтага бацькі дзяцей павінны, ня гледзячы на нішто, беспрарыўна складаць просьбы з подпісамі да школьных інспэктараў адчыніць беларускія школы, або ў існуючых польскіх увясьці навучаньне пабеларуску.

Гэта, што да навучаньня маладых. Моладзь-жа старэйшая, зусім няграматная, павінна таксама вучыцца, біручы помач бяз ніякага стыду у старэйшых людзей ці сваіх сяброў, крыху граматных, якія ўзноў у сваю чаргу павінны, чытаючы добрыя кніжкі і часопісі, разьвіваць дома сваю веду. Праўда, ня кожны можа купіць сам сабе кніжку, ці выпісаць часопісь, але тады гэта трэба рабіць супольна з суседзямі. Бедныя-ж зусім хай зьвяртаюцца з просьбай за беларускімі кніжкамі да бел. рэдакцыяў, у якіх часам можна дастаць добрую кніжку і зусім дарма, але гэта аднак трэба рабіць у найгоршым выпадку, бо рэдакцыям яны ня прыходзяць дарма. Рэдакцыя „Шляху Моладзі" не аднаго ўжо надзяліла добрымі кніжкамі, якія сама зьбірае ад беларускіх выдавецтваў і вось цяпер яна ў гэтым кірунку ізноў робіць стараньні.

Справа здабываньня асьветы і яе пашыраньня ў сучасны мамэнт ёсьць бадай найважнейшым пунктам у нашым народным адраджэньні, які ня раз мы ўжо абгаварвалі ды які бадай не патрабуе ніякіх тлумачэньняў, бо кожны знае, як цяжка жыць чалавеку цёмнаму. Разумеючы гэта, некаторыя беларусы на вёсцы ўжо пачалі ў гэтым кірунку працу шляхам прыватнага хатняга навучаньня. Пажадана, каб яно што-раз далей і больш разьвівалася.

**Я.—к.**

# Маленькае параўнаньне.

Развaжаючы аб беларускім адраджэнскім руху і аб палажэньні беларусаў, як нацыянальнае меншасьці ў сучаснай Польшчы, паўстае пытаньне — як сапраўды жывуць і ў якім палажэньні знаходзяцца нацыянальныя меншасьці ў іншых дзяржавах. На гэтае вось пытаньне нядаўна знашоў я добры адказ у віленскай польскай газэце „Słowo" № 130, якая зьяўляецца органам консэрватыўнага кірунку Беспартыйнага Блёку Супрацоўніцтва з Урадам, у стацьці Cat'a, ці выразьней—пасла з Б.Б.Станіслава Мацкевіча п. н. „Hitlerowcy wobec Polaków w Niemczech".

У гэтай стацьці пасол Мацкевіч, які асабіста сёлета вясной адведаў Нямеччыну і навочна праканаўся, як сапраўды выглядае там жыцьцё і палажэньне палякоў, піша аб ім менш-больш так:

Паводле ўрадавае нямецкае статыстыкі палякоў на землях сучаснае нямецкае дзяржавы жыве 803,405. Самі палякі цьвердзяць, што іх ёсьць там 1,132.000 асоб, але раскінутых па розных частках сучаснае Нямеччыны, як Горны Шлёнск, Мазуршчына, Кашубы, пагранічча і агулам па ўсей дзяржаве. Палякі ў Нямеччыне маюць свае палітычныя арганізацыі, выдаюць 5 польскіх штодзеньнікаў і 3 тыднёвікі. Маюць яны 66 пачаткавых польскіх школ з 81 вучыцелям, да якіх ходзяць 1887 дзяцей. На адну школу сярэдня прыпадае толькі па 28 асоб, а бывае, што і менш. Так напрыклад піша п. Мацкевіч, што сярод мазуроў была заложана польская школа, да якой хадзіла толькі двое дзяцей. У Вэстфаліі ёсьць 62 курсы, на якіх польскае насельніцтва знаёміцца з роднай мовай.

Далей аўтор гэтае стацьці адбівае ўсе нападкі польскае прэсы на Немцаў за іх быццам прасьлед палякоў, пішучы, што ўсе яны „ня маюць ані на грош праўды"; зазначае пры гэтым, што польская прэса ў Нямеччыне зьяўляецца адзінай прэсай антыгітлераўскай, пішучай сьмела, свабодна і выходзячай рэгулярна, а так-жа што „Związek Polaków" у Нямеччыне падчас апошніх гітлераўскіх разрухаў не атрымаў ніводнай бадай весткі, каб дзесь пабілі паляка, або зрабілі пагром польскага насельніцтва.

Чытаючы гэткае вось апісаньне польскага пасла аб палажэньні польскае нацыянальнае меншасьці ў Нямеччыне, мімаволі хочацца параўняць з гэтым палажэньнем палажэньне нашага беларускага народу пад Польшчай.

Беларусаў пад Польшчай апошняя польская перапіс з 9 сьнежня 1931 г. налічвае да 1.600.000 асоб, а беларусы

самі сябе налічваюць у сучаснай Польшчы больш 2.500000 асоб· Жывуць беларусы ўсе суцэльнай масай, адзін пры адным, на т. зв. „Крэсах Всходніх". Жыцьцё гэта пад узглядам матэрыяльным, больш чым беднае, пад узглядамжа народным і грамадзкім—проста жабрачае... Бо што-ж мы тут сапраўды маем: пару арганізацыяў палітычных, пару культурна - прасьветных, некалькі ўстаноў эканамічных, 1 часопісь тыднёвую, 4 месячнікі, пару часопісяў непэрыёдычных і безработную інтэлігенцыю. Школ сваіх так як і ня маем, бо тыя некалькі ўрадавых пачаткавых т. зв. беларускіх і ўтраквістычных школ, ніводзін беларус ня можа назваць сапраўды беларускімі; дзьве-ж беларускія філіі польскіх гімназіяў, таксама трудна назваць беларускімі. Беларусы-ж перад прыходам на іх землі польскае ўлады мелі цэлую сетку сваіх пачаткавых беларускіх школ, 5 гімназіяў і 3 вучыцельскія сэмінарыі. У 1926-27 годзе беларускае насельніцтва злажыла дэклярацыі на 412 беларускіх дзяржаўных пачаткавых школ, лічачы на кожную па 40 вучняў, але школ гэтых нам не далі. Жыцьцё рэлігійнае на Беларусі гэта трагічны абраз. Аб магчымасьцях працы культурнае, выдавецкае і палітычнае трудна гаварыць, бо словы гэтыя далёка ня будуць чутны...Даволі хіба аднак будзе прыпомніць адмову польскіх уладаў, без паданьня матываў, зацьвердзіць статут культурна-выхаваўчае аргані ацыі беларускай моладзі „Будучыня", спартовае беларускае арганізацыі „Гайсак", падзеі з вучнямі беларускай наваградзкай гімназіі, ды агулам прыпомніць тыя артыкулы друкаваныя ў беларускай прэсе аб перашкодах у культурнай працы.

Гэта кароткае параўнаньне ўжо само за сябе гавора, ды сьведчыць аб тым, як Польская дзяржава выконвае міжнародныя забавязаньні і ўласную конституцыю, якія гварантуюць беларусам свабоду ў культурна-прасьветным і народным жыцьці. Далей параўнаньне гэта сьведчыць і аб тым, як урадавая польска-беларуская парлямэнтарная група Б.Б., да якой, здаецца, належыць і пасол Мацкевіч, навязывае сужыцьцё між беларускім і польскім грамадзянствамі, як яна падымае духовую беларускую культуру і асьвету сярод беларусаў, як палепшае іх быт матэрыяльны, ды як апякуецца беларускай моладзяй.

Дзеля гэтага і ня трэба дзівіцца, што ў вастрогах многа ёсьць беларусаў, што ня раз беларуская моладзь падае ахвярай правакацыі і што чэснае беларускае грамадзянства ня йдзе на супрацоўніцтва з урадам.

Я. Н.

**Bazyl St.**

# Kaniec śvietu

Šmat jość pryčynaŭ śmierci, jakoj padlahajuć usie žyvyja istoty i pavodle hetych pryčynaŭ možna było-b klasyfikavać rody śmierci. Idzie nam adnak tut ab dva tolki sposaby, abo formy pamirańnia: śmierć indyvidualnuju žyvučaj istoty — i śmierć ahulnuju, masavuju.

Nia redkimi źjaŭlajucca vypadki śmierci ahulnaj, abo masavaj siarod ludziej: chopić prypomnić tolki takija katastrofy, jak ziemlatrasieńnie, pavodki, vybuchi vulkanaŭ — padčas jakich ludzi hinuć „jak muchi". Aprača hetaha čałaviek fabrykuje sam sposaby i formy śmierci masavaj istot padobnych da siabie. Tut maju na dumcy vojny, u jakich hinuć miljony ludziej — časam šmat bolš jak padčas naturalnych katastrofaŭ... U tvareńni śmierci čałaviek užo daraŭnaŭ pryrodzie—nia moža tolki daraŭnać joj u tvareńni žyćcia...

Viedajem taksama, što śmierć masavaja spatykajecca siarod inšych žyvych istot na ziamli davoli časta. Naprykład takoj śmierciaj hinuć tysiačy i miljony kuzurak, a taksama i źviary, jak napr. vandroŭnyja pacuki.

Aprača hetaha ŭva ŭsich naturalnych katastrofach razam z ludźmi masava hinuć i źviary — a apisańni takich katastrofaŭ, pačynajučy ad apisańnia patopu, viejuć strašennaj žudaściaj.

Paprabujem ciapier vyabrazić sabie takuju naturalnuju katastrofu, jakaja abniała-b usiu ziamnuju kulu, zamianiŭšy jaje ŭ ahramadnuju latajučuju mahiłu.

Hetak zvany kaniec śvietu, pad jakim razumieli kaniec abo śmierć ziamli, ad daŭnych časoŭ zajmaŭ ludzkoje vyabražeńnie. Byŭ čas u historyi eŭropejskaj cyvilizacyi, kali čakali jaho kožny dzień i kali kožnaja bolšaja kameta, jakaja źjaŭlałasia na niebie, była ŭvažanaja za zapaviedź śmierci ziamli, a razam z joj—usiaje ludzkaści. Byŭ navat vyznačany niaraz dakładny termin hetaha kanca — naprykład čakali jaho ŭ hodzie roŭna 1000-nym.

Adnak hety termin minuŭ i čałaviectva addychnuła z palahčeńniem. Razam-ža z postupam navuki ŭ apošnich hadoch termin hetaha kanca ŭsio addalajecca ŭ tumannuju budučyniu nie na tysiačy, ale na miljony hadoŭ...

Hetak prynamsia zdajecca... Adnak napeŭna nichto ničoha nia znaje... Bo kaniec śvietu ci śmierć ziamli moža być jak vynikam peŭnych naturalnych žyćciovych pracesaŭ, razam z jakimi pływie žyćcio ziamli, tak i vynikam nienaturalnaha, heta značyć niespadziavanaha i niepradbačanaha niejkaha kosmičnaha kataklizmu.

Astranomy, razvažajučy mahčymaści śmierci ziamli, pradbačyli dahetul piać formaŭ i sposabaŭ hetaje śmierci, jakaja była-b adnačasna masavaj śmierciaj usiaje ludzkaści:

1) u vyniku pastupovaha astudžeńnia chaładzieje sonca, a ziamla, atrymoŭvujučy štoraz mienš ciapła ad sonečnych kasulaŭ, nia zdoleje ŭtrymać arhaničnaha žyćcia na svajej pavierchni;

2) pastupova astyvaje nutro ziamli (jakoje dahetul jašče raspalenaje), stajučysia zusim niažyvoj planetaj, jak miesiac, na jakoj, biaz unutranaha ciapła, samyja tolki sonečnyja kasuli taksama nia zdolejuć utrymać žyćcia;

3) naša planeta spatkajecca z jakoj-niebudź druhoj planetaj zabłukanaj z niejkaj inšaj sonečnaj systemy i nastupić ad udaru adna ab druhuju paradačny vystrał i naša planeta rassypicca ŭ kosmičnym prastory tysiačami zapalenych kavałkaŭ, tvoračy novy roj „padajučych zorak". Jasna, što ŭ hetaj katastrofie zhinie ŭsio žyvoje na ziamli!

4) siarod adviečnaj padarožy kruhom sonca i razam z soncam praz kosmičnyja prastory, ziamla papadzie ŭ błudnuju darohu ahramadnaj komety, jakaja svajej „kasoj", abo lepš kažučy „chvastom", złožanym z atrutnych hazaŭ, voźmie ŭ svaje abniaćci matku ziamielku — i ad hetych hazaŭ vyhinie ŭsio, što tolki žyvie na ziamli;

5) urešcie ziamla, z pryčyny dziejańnia „miesiačnaha tormazu" (bo miesiac choć vielmi pavoli, ale stała ŭpłyvaje na zvalnieńnie abarotaŭ našaj ziamli kruhom svajej vosi), pierastanie zusim kružycca i budzie, praŭda, dalej vandravać praz kosmičnyja prastory kruhom sonca, ale straciŭšy kružny ruch kruhom svajej vosi, budzie stała źvierniena adnym bokam k soncu, abo k miesiacu...

Voś piać pryčynaŭ śmierci i piać sposabaŭ ahulnych, kosmičnych chaŭturoŭ, jakija, pavodle pradbačańnia astranomaŭ, moža spravić natura ŭsiamu žyćciu na ziamli i caru hetaha žyćcia — čałavieku.

Zdavałasia-b, što ŭ hetych piacioch sposabach pradbačany ŭžo ŭsie mahčymaści, praŭda, nia vielmi pryjemnyja. Adnak nie. Ale ab hetym u nastupnym numary.

(d. b.)

---

# Vartaść nasieńnia dzičak.

Časta najlepšyja namiery, jak paasobnych adzinak, tak i całaj hramady ludziej raźbivajucca ab niedachvat hrašovych srodkaŭ. Hetak jość i ŭ žyćci našaj biełaruskaj moładzi; niaraz napr. sprava pašyreńnia biblijateki, zarhanizavańnie spektaklu-viečaryny i t. p. spatykaje pieraškodu materyjalnaj na-

tury. Štuka zdabyćcia niekalkich załatovak dziela karyści ahulnaj, abo i asabistaj koštam zusim lohkaj pracy, moža zacikavić našu viaskovuju moładź.

U apošnim № „Samapomačy“ aŭtor staćci „Źbirajcie nasieńnie dzičak!“ — zaachvočvaje sialan da źbirańnia nasieńnia dzikich jabłyniaŭ i hrušaŭ i zakładańnia hadoŭli „dzičak“, h. zn. padkładak pad pryščepy. Reč, biazumoŭna, dobraja, ale nikoli taja kolkaść nasieńnia, jakaja ŭ nas pry achvocie i starańni moža być sabranaja, nia budzie vykarystanaja na miescy. Tymčasam inšyja vajavodztvy Polščy, nia majučy zusim, abo ŭ vielmi małym liku dzikija jabłyni i hrušy, pry zakładańni škołak, vypisvajuć nasieńnie z Vilenskich handlovych firmaŭ. I tut reč śmiešnaja dy i sumnaja razam: vilenskija firmy nasieńnia taksama nia majuć, bo nichto jaho nia źbiraje, a vypisvajuć nasieńnie dzikich jabłyniaŭ i hrušak — z Francyi, dzie vialikaja aharodnickaja firma haduje specyjalna matačnyja dzikija drevy dziela pradukcyi nasieńnia. — Čamu tyja hrošy, što iduć zahranicu, nie mahli-b astacca ŭ rukach našaj moładzi? — Što heta mahčyma, najlepš śviedčyć nastupny fakt: niekalki hadoŭ tamu nazad, redahujučy „Haspadarčy Addzieł“ pry hazecie „Беларуская Справа“, ja ŭ staćci „Jašče adzin dachod u haspadarcy“ parušyła hetu spravu i, jak paśla daviedałasia, moj zaklik daŭ zusim zdavalniajučyja vyniki, bo ŭ adnu z vilenskich nasiennych firmaŭ vučni Biełaruskaj Himnazii prynosili nasieńnie i, jak mnie kazaŭ ułaśnik firmy, pryniesienyja niekalki kilo zusim zaspakoili tahačasnaje zapatrebavańnie. —

Čamu i dalej nie viali hetaj pracy i dapuścili, što dva hady tamu z Paryža było vypisana 12 kilo nasieńnia dzičak — astajecca zahadkaj. — Siahońnia horača zaklikaju moładź: nie marnujma dabra, nie davajma zarablać zahranicy na tym, pa što ŭ nas tolki treba vyciahnuć ruki! —

Dzie jość šmat hrušak-dzičak, tam možna jadučy ich źbirać nasieńnie. Marudnaja heta reč, ale mahčymaja, kali i z ihruškami pastupać tak, jak i z dzikimi jabłykami: treba zakapać u chlavie (dziela ciapła) mienšuju ci bolšuju bočku i kožny płast dzičak u joj pierasypać płastam ziamli. Kali jany dobra pierahnijuć, vybirajem ich na rešata i pieracirajem rukami, palivajučy vadoj. Na rešacie astanucca čystyja ziarniaty. Pierasušyvajem ich na sitach ci rešatach (tolki nia ŭ piečy) i trymajem da času pradažy ŭ suchim miescy.

Sioleta cana nasieńnia jabłykaŭ za kilo — 5 zł., hrušak — 7 zł.

*L. Vojcikava.*

# Litaraturny addziel.

## AROŁ I PILOT.

Vysoka, vysoka,
panad horami,
dzieś ŭ padniebnych abšarach,
nad chmarami,
tam,
dzie šyrycca vyž,
dzie prastorami,
i niavymiernymi abšarami
raźlivajecca dal
na ŭsie starony —
vioŭ pilot
śmieły lot
vysoka, vysoka,
vun,
tam,
ŭ vyšyni,
niedzie-dzieś,
až pad zorami.
o:o
A ŭnizu
panad skałami,
panad hornymi tumanami,
sieŭ aroł adpačyć
pad upałami
sonca letniaha;
nad hranitami abarvanymi,
nad abryvam krutym,
sieŭ na kamieni
i hladzić:
panad im
lotam volnaści,
ŭ biezbierežžy vyžyn,
šlacham śmiełaści,
čałaviek
dzieś z nizin,
mima zdolnaści,
nie z pryrody lacić,
a z umiełaści.
o:o
Pryzadumaŭsia
padniabieśsia car...
hordy ŭzhlad raspuściŭ
na ziamli abšar —
skul słaby čałaviek
vyšej skałaŭ i hor,
dzieś ŭ padniebnuju vyś,
biezhraničnuju dal,
dzieś ŭ prastvory da zor,
mieŭ advahu ŭźlacieć;
zoram,
soncu amal
źjaviŭ śmiełaść schacieć
pakazać śmieły tvar.
o:o
Zaharełasia hordaść połymiem
i rasšyryła hrudzi volnyja.
Dumka zajzdraści ciažkim mo-
[łatam
atumaniła hordu hołavu.
o:o
— „Za vysoka, śmialčak,
padyjmaješsia!“ —
tak padumaŭ aroł
azirnuŭšysia
na pilota lot,
na advažny čyn.
Raptam, ŭdoł,
pad tuman,
rasplastaŭšysia,
lotam z hornych vyžyn
rynuŭ viečny pilot
ŭ akijan,
ŭ tuju šyr navakoł,
što skryvaje abman
i zdradzieckuju dal
biez pačatku — kanca;
ŭ tuju propaść, prastvor,
dzie jon tolki,
aroł,
mieŭ adzin, tolki sam
latać ŭ prorvie vyžyn
ad pryrody dazvoł.
A adtul
płaŭna ŭvierch,
lotam lohkaści,
ŭzvyž,
ŭ prastor,
ŭ siniu dal,

byccam pierynka
kružyniajučy,
uzdymacca pačaŭ,
pašyrajučy
kruhazor
z vyšyni; —
šyrej, šyrej što raz
kruh prastoraŭ zajmaŭ
i pad sonca, da zor,
da pilota vyžyn,
šlach zadorny trymaŭ.
o:o
Patuchaŭ jasny dzień...
Viečar ŭžo adbivaŭ
Kryvianuju čyrvień
Z dzikich skałaŭ i hor
Na biazludny abšar, —
Takim rodam stvaraŭ
Biasškodny pažar
I mistyčnuju cień.
Pulsam poŭnych hrudziej
hudzić roŭna mator
i pracuje chutčej
śvierdłavy prapielor.
Vyšej, vyšej što raz
padymaŭsia aroł
ŭzlotam lohkim, jak cień,
asiahajučy
vyšyniu,
dzie svoj lot
vioŭ pilot,
a
zraŭnaŭšysia
ŭ vočy śmieła jamu
zazirajučy,
pieravysiŭ palot
i pramoviŭ:
— „Kamu?
Jak nia mnie
ŭvieś abšar
byŭ pryrodaju dan.
Čałaviek,
ty na chvilu tut pan —
ja — na vieki tut car!“ —
U sposab hetaki
vyzyvajučy
śmielčaka na palot,
na zmahańnie,
na zador,
što buić ŭ hałavie.
Ŭžo mator
nia hudzić, a ravie...
A nad im
ŭ vyšyni
lacić lohka aroł
biez laskot,
traskatni
tak,
jak ryba pływie...
šyr, prastor navakoł...
tak, jak voł
akurat,
znoŭ zaroŭ
aparat...
Cichi tresk...
raz... dva... try...
Nieprabudnaja ciš
zalahła ŭ vyšyni.
Ścich mator.
Jak-by zrazu zasnuŭ
ŭvieś razbiežny prastor.
I na doł aparat
byccam kamień lacić...
a aroł ŭ siniavie
by zavis i visić...
azirajučy
hordym ŭzhladam ziamlu.
Tak pramoviŭ ŭdahon
narakajučy:
— „ty, adtul, čałaviek,
ŭzvyž siudy prylacieŭ,
ty zraŭnacca chacieŭ
z tym, što cełу svoj viek
u palotach žyvie —
na ziamli tvoj udzieł!“
Vyśmiavajučy
tak niaščasnaha
sam na skały prysieŭ
nastaŭlajučy
hrudzi hordyja
załacistym cieniam
sonca jasnaha.
Viečar chutka ciamnieŭ.

*Jazep Vilkoŭščyk.*

Słonim 5.IX.1933 h.

* * *

О, васеньні віхор, ты мой друг, ты мой брат!
Неспакойны, як думкі мае, ты ляціш
І зрываеш апошнія з дрэваў лісты.
То як злосны вядзьмар, то як хлопчык пусты
У галінках, ў кустох шапаціш.
Завываеш у полі ты злосна, як воўк,
Над ракою бушуеш ў аеры сухім...
Падымаюцца хвалі ў рацэ і ідуць,
Разьбіваюцца з плескам аб бераг, гудуць,
Ізноў гінуць ў прасторы глухім.
Ня стрымае цябе ўся варожая моц
Людзкіх злыдняў. Ў імкненьні сваім векавым
Ты наперад ляціш, як палёў валадар,
Гоніш плоймы лянівых, расьцягнутых хмар,
Сячэш землю халодным дажджом.
О, васеньні віхор, ты, магутны мой брат!
Разгуляйся, ўсе сілы свае сабяры
І народу адвечныя путы скрышы
І зайграй яму сьветла на струнах душы,
Ўспамяні аб мінуўшай пары!...

**А. Бярозка.**

## МЫ — ПЕСЬНЯРЫ.

Ідзём мы ў сьвет і новай верай,
Як сонцам, чысьцім пуць,
А словы самі ў песьні сьмела
Вірацца і плывуць.

Прад намі — муць нязнанай долі.
Над намі — сінь вясны,
За намі — йдуць шырокай хваляй
Сялянскіх стрэх сыны.

Мы — песьняры народнай гушчы
І волен наш узьлёт.
У песьнях шум палёў і пушчы —
У песьнях — веснаход.

Мы — песьняры працоўнай эры,
І сьцяг наш зоры ткуць.
Ідзём у сьвет і новай верай,
Як сонцам, чысьцім пуць.

**М. Машара.**

## ДАРОГА.

Іду адзін... Дарога прадамною,
Сярод палёў, як доўгі вуж ляжыць,
То праз гору, то зноў раўніною,
Дзесьці далёка, далёка бяжыць.

Далей іду, то полем, то лугамі,
Ды зноў бяскрэсная шыр...Адзін пясок..
Па ім топчуць цяжкімі нагамі... —
Ці дабрыду? Палёў пытае зрок.
Ў прыродзе ціш... Даўно вечарэе...
Зара за лесам гожа так гарыць,
А ноч па небе вочкі-зоркі сее,
Вось там адна... другая зіхаціць.
Што-раз цямней...страх думку выклікае
„Няўжо-ж няма канца дарогі той?
Ці варта йсьці?“ Зорка-ж так міргае
„Ты не адзін. Ідзі, толькі хутчэй!“
І я пашоў, хоць пот па твары ліўся,
Хоць з трудом ногі я перастаўляў...
Йшчэ зварот і... сьвет у гору ўзьбіўся...
Вось цэль! Са шчасьця ледзь я ня упаў.

**Дон-Сэвільля.**

## БЕЛАРУСКА.

Бяздольных хат краса—дзяў-
[чынка,
Павабнасьць поўная красы,
Зпадлёгкайбеленькайхусьцінкі,
Прыгожаць від ей валасы.

Заружавеўшыся налётам
Пакрыты далікатны твар,
Які няраз быў зьліты потам,
Паліў яго і сонца жар.

Як дарагія пэрлы вочкі,
Зіяюць, вабяць да сябе
І кожан ў іх зірнуць ахвочы,
Пазнаць, што кажуць аб сабе.

У іх, здаецца, што заўсёды
Іскрыцца міла чысты сьмех,
Аднак-жа зрэдзь калі прырода
Яе даводзіць да уцех.

І часта думкаю маркотнай
Туманіцца яе пагляд,
Што сьведчыць аб жыцьці
[гаротным,
Якому з нас ніхто ня рад.

Здаецца, што ўсяго даволі
Ў яе прыгожасьці такой,
Але няма прыгожай долі,
Што мае шчасьце прад сабой.

А твар бяздольны—гэта кветка,
Што вабіць гожасьцю людзей,
Якую кожная нялетка
Сарвець для хцівасьці сваей...

Дык-жа у кожную часінку
Пільнуй граніц жыцьця свайго...
Удолюй шчасьцевер, дзяўчынка
Ты не пазбаўлена яго.

**Ю. Сяргіевіч.**

## Dla našych małodšych.

### VUČECIESIA!

*Vučeciesia, dzietki,*
*Dumajcie, čytajcie,*
*Čužoḫa navučajciesia,*
*Svajḫo nia čurajciesia!*
*Bo chto Maci zabyvaje,*
*Taḫo Boḫ karaje.*

*T.* Ševčenka, *vol. pierakł. Dr. M.H.-B.*

**Allegro.**

# Водарасьць

(*З зялёнага шуму*)

Радзіўся ён ад чорна-салёнай марской хвалі. Яна прымацавала яго тоненькім, павучынным каранькам да зморшчынаў падводнага каменя, пасівеўшага ад старасьці.

Ён рос. Цягнуліся і віліся яго валокны, чырвона-чорныя, як густа засьмягшая кроў. Прыходзілі і адходзілі хвалі. Калыхалі яго, шапталі яму казкі. Праз зялёна-шэрую муць стругавіны бачыў ён другія каменьні, таксама сівыя, таксама абросшыя водарасьцю, падобным да яго.

Скоўзалі міглівыя рыбкі, крыскуючы ваду серабром плыўкоў і пэрловіцай гібкай лускі. Поўз бокам вітлавокі марскі рак, непаваротліва кратаючы двух-зубымі клюшнямі, поўз пад камень і водарасьць чуў вошчуп жорсткае скарупы.

Ночкамі ён спаў на мшыстае пасьцелі і праз сон яму міргалі зорныя вочы, зацемненыя стругамі.

Днём сонечны сьвет плыў у глыбіню, і на дне калыхалася залатая луска касуль раздробленых многаграннасьцю вады. Блізка было дно, але водарасьць ня мог дастаць да яго. Блізка было паветра, але водарасьць ня мог дыхаць ім. І толькі падчас буры, калі з неба звісалі чорныя хмары, быццам пасланая шэра-чорная скура лахматага зьвяра, — водарасьць падымаўся з хваляй уверх, дубка станавіліся яго жорсткія валокны і ён заліваўся зярністай пенай, дыханьнем віхра і бурным паветрам, а потым, зморан і расхрыстаны ляжаў ён уздыхаючы на грудзёх сівога каменя, чуў, як жутлая туга паўзла па яго валокнах, і здаваўся бязмерна ненавісным пруткі яго карэнь.

Адзін раз, у такую посьле-бурную пару, ледзь калышучыся па астыўшай вадзе, памаленьку праплыла мядуза. Уздрыгнуў водарасьць і ўсімі валокнамі рвануўся да яе, але моцны карэнь быў глыбака зашчэмлены цяжкім, старым камянём.

Пусьці мяне, стары камень! —уздыхнуў водарасьць — я пакахаў лунепадобную мядузу, я жадаю плыць за ей.

Але стары камень здаўна ўжо аглохшы ад рогату бур, нячуў ціхай скаргі і маўчаў, як заўсёды.

Зноў праплыла мядуза, зноў як лунь месяца, праходзячы праз кволы рух рэдкіх хмарынак, серабрылася яе кволая вяршынка. Ізноў рваўся з тугой за ей водарасьць, але крэпка і бязлітасна трымаў яго гібкі і моцны карэнь.

— Ты жадаеш волі, мой сын, — прашаптала набягаючы хваля — але ты ня рві караня. Твой карэнь — тваё жыцьцё.

— Я жадаю быць з мядузой, я жадаю плыць за ей — праплакаў водарасьць.

Мядуза вольная, яна плыве, куды жадае, у яе няма караня. Яна спакінула спакойнае жыцьцё, спакінула сям'ю, спакінула тое мейсца, дзе радзілася і стала вечнай вандроўніцай, але яна безбаронная і на кожным шагу можа загінуць, затое што атрымала можнасьць руху і волі.

— Шчасьлівая! — прахліпаў водарасьць.

— Не, яна таксама тужыць, як і ты. Ёй надакучыла мглістая сьцюжа вады; ёй сталі нязноснымі серабро і кволасьць. Яна лятуціць аб гарачым золаце сонца, жадае яго вагністых пяшчот. Яна бяз розуму, яна шалёная, — як і ты.

І хваля, кінуўшы карунковы подал на бераг, зноў сабрала яго і пацякла ў даль.

А водарасьць з сваей тугой астаўся, яго трымаў нярухомы, моцны карэнь, яго карэнь — яго жыцьцё.

Але расла туга, расьлі крылы лятункаў лунаючых, прыгожых і недасягнутых.

І ён стаў клікаць буру.

— Прыдзі цёмная, прыдзі магутная, прышлі дыханьне віхроў, жуткую цьму, вострае, міглівае дрыжаньне асьляпляючага сьвету, і шум і сьвіст, і муць і гул. Вазьмі мяне, адарві, схапі і нясі з сабой. Дай быць вольным, дай прыблізіцца да тэй, што праносіцца лёгкая і вольная, як адбітак далёкага і недасяжнага месяца.

Прыдзі, грозная, і вазьмі мяне няшчаснага, нярухомага. Абарві мой карэнь—маё жыцьцё і ў сьмерці дай пазнаць мне тваю сьвятую волю! —

І многагалодная бура пачула ціхі, падводны плач і прышла, і завыла, і застагнала і ўзгорбіла хвалі і цяжкімі глыбамі падняла вал. Імкнулісь яе нязьлічаныя коні, зьяючы серабром і чарнатой, і грызьлі пенныя цуглі, каламаціліся па ветры іх белыя, раскудлаючыя грывы.

— Матка! вазьмі мяне з сабой! — крыкнуў захлібаючыся водарасьць, да прабягаючай хвалі. І зварыяцеўшая хваля схапіла і пацягнула яго. Напружаліся жорсткія валокны, рвануўся ўсімі сіламі водарасьць, і ня вытрымаў моцны ка-

рэнь. Захрушчэў, парваўся. І памкнуў водарасьць, трацячы сьвядомасьць, прашыты сьмяротнай больлю і вострай радасьцю волі.

Падбег гарбаты вал, падхапіў водарасьць і са злосьцю выплюнуў яго на бераг.

Калі водарасьць ачухаўся, бура ўжо мінула. Ён ляжаў на гарачым пяску і задыхаўся ад гарачых касуль сонца. Вобак, на сухім, гарачым камені, вадзяніста блеклай зарніцай, чуць блішчэла няжывым, шкляным блескам, выкінутая з вады мядуза.

Яе нельга было пазнаць, але ён пазнаў і сударажна пакарабаціліся яго валокны. Ён ня ведаў —чуець яшчэ яна, ці ўжо гдзесь адляцела яе таёмна-сьцюдзёнае жыцьцё, разам з ейнай красой.З кожнай хвілінай ўсё меншала, усё больш таяла, а мярцьвісты медзяны погляд яе ўсьцяж таксама нярухома глядзеў увыш, на сонца,

Яшчэ колькі хвілін і ад мядузы на гарачым камені не засталося і сьледу, а на тым мейсцы, дзе яна ляжала, цямнеў скорчаны труп водарасьця, хрупкі і чорна-чырвоны, як камок густа засьмягшай крыві.

Пераклаў **М. Машара.**

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

**Замена Б. Тарашкевіча на Ф. Аляхновіча.** 6-га верасьня сёл. г. на савецка-польскай граніцы каля Стоўпцаў адбылася замена палітычных вязьняў паміж Польшчай і СССР. Польшч звольніла з вастрогу і пусьціла ў Саветы Б. Тарашкевіча, былага павадыра „Грамады“, а Саветы звольнілі з вастрогу і пусьцілі ў Польшч беларускага пісьменьніка Фр. Аляхновіча. Пры замене Б. Тарашкевіч „дзякаваў“ паляком за вастрог, а Фр. Аляхновіч выразіў Саветам свой »жаль“ што ня можа „приобщиться к советскому строительству.“ Мы-ж жадаем Б. Тарашкевічу і Ф. Аляхновічу, каб новыя іхныя жыцьцёвыя каляіны вялі да поўнага здабыцьця волі беларускага народу.

**Кангрэс Нацыянальных Меншасьцяў і Беларусы.** Ад 16 да 19 верасьня с. г. у Швайцарыі, у м. Бэрне адбываўся IX Міжнародны Кангрэс Нацыянальных Меншасьцяў. На Кангрэсе гэтым ад беларусоў браў учасьце інжынер Адольф Клімовіч, які зрабіў даклад аб жыцьці беларускага народу пад Польшчай. Даклад інж. Клімовіча аб жыцьці беларусоў пад Польшчай адбіўся рэхам ў швайцарскай і інш. загранічнай прэсе.

**Нарада беларускіх праваслаўных дзеячоў.** 19-20-га жніўня с. г. ў Вільні пры Беларускім Нацыянальным Камітэце адбылася нарада беларускіх праваслаўных дзеячоў, у якой прыняў удзел і украінскі пасол Хруцкі. На нарадзе гэтай паміж іншым абгаварвана была справа беларусізацыі царквы.

**Канфіскаты.** Па загаду Віленскага Гарадзкога Старасты 4-га верасьня с. г. сканфіскаваны № 7—8 беларускай коопэратыўнай часопісі «Самапомач» за стацьцю „Прад пачаткам новага школьнага году." У гэтым менш-больш часе быў сканфіскаваны № 2 „Летапісу Таварыства Беларускай Школы" за стацьцю „Выйдзі спаткаці Вясну"... 15-га-ж верасьня с. г. па загаду таго ж Гарадзкога Старасты сканфіскаваны № 30 «Беларускай Крыніцы" за стацьцю „Палітычны гандаль беларусамі" (з прычыны абмены Б. Тарашкевіча і Ф. Аляхновіча). Пры чым у Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны быў так-жа апячатаваны ўвесь набор таго-ж нумару часопісі. Пячаці з набору, па адпаведных захадах з боку друкарні, той-жа Стараста загадаў зьняць аж 22.IX.33.

**Новая беларуская спажывецкая коопэратыва ў Вільні.** 17-га верасьня с. г. ў Вільні, ў памешканьні Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, адбыўся арганізацыйны сход закладчыкаў беларускай спажывецкай коопэратывы ў Вільні. На сходзе гэтым пастаноўлена заснаваць беларускую спажывецкую коопэратыву ў Вільні, і назваць яе „Райніцай." Адзін пай будзе выносіць 10 зл. У Наглядную Раду выбраны: інж. А. Клімовіч, С. Пауловіч, В. Манцэвіч, Я. Найдзюк, М. Шкялёнак і Я. Малецкі.

**Паседжаньне Прэзыдыюму Ц К. —Б.Х.Д.** 9.IX.33 году у Вільні адбылося паседжаньне Прэзыдыюму Ц. К.—Б.Х.Д., на якім паміж іншым абгаварывалася сучасная палітычная сытуацыя і справы арганізацыйныя. Пры чым пастаноўлена познай восеньню склікаць Раду Б.Х.Д.

**Новыя матурысты беларусы.** 15-га верасьня с. г. атрымалі матуру гадунцы Бел. Філіі Дзярж. гімназіі ім. Славацкага ў Вільні: А. Марцінчык і А. Дасюкевіч Жадаем ім удачы ў далейшай навуцы.

**Набажэнства для беларусаў каталікоў.** Пасьля летняга перарыву з прычыны рэмонту сьвятыні, йзноў што нядзелю і сьвята адбываецца ў касьцеле сьв. Мікалая набажэнства для беларусаў-каталікоў, з казаньнем у бел. мове. Падчас набажэнства пяюцца беларускія рэлігійныя песьні.

**Новы прэфэкт у Бел. Філіі Дзярж. гімн. Ім. Ю. Славацкага.** З пачаткам с. г. школьнага году на прэфэкта для вучняў каталікоў у Бел. Філіі Дзярж. гімн. ім. Ю. Славацкага назначаны школьнымі уладамі Кс. Др. Ст. Глякоўскі—беларус.

**Новая школьная форма.** У сёл. годзе у школах пачалі ўводзіць новую форму адзежы для вучняў. З гэтай прычы-

ны прышлося разьвітацца з сваей бел. формай шапак вучням бел. гімназіяў ў Вільні і Наваградку, якія змушаны былі нолажыць уводжаныя па ўсіх гімназіях у Польшчы т. зв. „мацеювкі.“

**З выдавецкай нівы**. У месяцы верасьні вышлі наступныя новыя кніжкі:

Ks. W. Hadleŭski, Mahistar Teolohii: Historyja Świataja abo Biblijnaja Nowaha Zakonu. фармат 8⁰, бач. 190+VI, з 36 рысункамі ў тэксьце і 2 картамі. Выданьне „Беларускага Каталіцкага Выдавецтва.“ Вільня 1933 г. Цана кнігі 2 зл.

Ad. Stankiewič: Kastuś Kalinoŭski, „Mužyckaja Praŭda“ i Ideja Niezaležnaści Biełarusi. (з бібліографічным дадаткам), фармат 8,⁰ бачын 64. Выданьне Беларускага Нацыянальнага Камітэту. Вільня 1933 г. Цана 50 грашоў.

М. Машара: „Вось тут і зразумей“ драматычны абразок у 2-х адслонах. Фармат 16⁰, бач. 29. Выданьне ТБА. Вільня 1933 г. Цана кніжыцы 20 гр.

Тарас Гушча (Якуб Колас): „У старых дубох“, „Злучыліся, „Дзеравеншчына“ (зборнічак апавяданьняў), фармату 16⁰, бач. 63. Выданьне ТБА. Вільня 1933. Цана кніжыцы 40 гр.

В. Жыткоў: „Пра малпачку“. Кароценькае апавяданьне для моладзі. Фармат 16⁰, бач. 32. Выданьне ТБА. Вільня 1933. Цана кніжыцы 30 гр.

Усе беларускія кніжкі можна купіць-выпісаць з Беларускай Кнігарні «Пагоня». Вільня Завальная вул. 1—1.

**Беларускі Адрыўны Календар на 1934 г.** Ужо друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні і хутка выйдзе ў сьвет Беларускі Адрыўны Календар на 1934 г., які супольна выдаюць Віленскія Беларускія Кнігарні: „Пагоня“, Ул. Манкевіча і Ст. Станкевіча. Над календаром гэтым працавалі першарадныя беларускія сілы, зьмясьцілі многа важных радаў, прыгожай літэратуры і здаровага гумару. Мае ён два стылі: новы і стары (каталіцкі — друкаваны лацінкай, праваслаўны — гражданкай). Каштаваць будзе календар здаецца ня больш 60 гр. Купіць або выпісаць можна яго ў беларускіх кнігарнях у Вільні і ў звычайных прадаўцоў календароў на правінцыі. — Кожны беларус бязумоўна павінен купляць толькі календар беларускі.

**БЕЛАРУСЫ Ў ЛАТВІІ. 5-цілецьце Т-ва Беларускае Моладзі ў Латвіі**. Сёлета ў Латвіі Таварыства Беларускае Моладзі сьвяткавала 5-тыя ўгодкі свайго існаваньня. Т-ва гэта

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІІ:*
*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і Язэп Малецкі.*

**Рэдактар Язэп Найдзюк** **Выдавец Янка Багдановіч.**

паўстала ў 1928 г. Цяпер мае яно 14 аддзелаў на правінцыі і цэнтралю ў Рызе. За 5 гадоў свае працы залажыла яно пры кожным аддзеле бібліятэку, пры трох аддзелах струнныя аркестры і пры 5-цёх аддзелах паставіла радыёапараты, зладзіла пры тым каля 100 прадстаўленьняў і канцэртаў і больш 30 лекцыяў. На чале Т-ва стаіць ўрад, у склад якога ўваходзяць: старшыня — К. Мяжэцкі, намесьнік старшыні — П. Мірановіч, сэкрэтар—Ф. Клагіш, намесьнік яго—М. Зуеўскі і скарбнік—Яз. Клагіш. Т-ва Бел. Моладзі ў Латвіі бязумоўна адыгрывае паважную роль ў беларускім адраджэнскім руху, — вось-жа жадаемо яму і далей плоднай працы ў гэтым кірунку.

**З Б.С.С.Р. Новая сетка навукова-дасьледчых установ Б.С.С.Р.** Нядаўна Саўнарком зацьвердзіў новую сетку навукова-дасьледчых установ Б.С.С.Р. НДІ (Навукова-Дасьледчы Інстытут) Беларускай Акадэміі Навук значна ўзмоцнены і рэарганізаваны. Пры Акадэміі літоўскага і латыскага сэктараў створаны „Інстытут пралетарскай культуры літоўскай, латыскай і інш. народнасьцяў БССР“. На базе глебазнаўства Б.А.Н. і Н.Д.І. агро-хэміі і глебазнаўства пры Наркамземляробстве створаны ў сыстэме Акадэміі „Інстытут аграглебазнаўства і ўгнаеньняў“.

Былы НДІ крыміналістыкі, крыміналёгіі пры Наркамюсьце ліквідованы і яго функцыі пераданы Інстытуту савецкага будаўніцтва і права Акадэміі Навук.

Такім чынам, пры Беларускай Акадэміі Навук будуць існаваць наступныя Н.Д. Інстытуты: філёзофіі, экономікі, гісторыі савецкага будаўніцтва і права, мовазнаўства, літэратуры і мастацтва, геолёгіі і гідрагеолёгіі, аграглебавы і ўгнаеньняў, біолёгіі з цэнтральным батанічным садам і габінэтам прыродазнаўства, хэміі, фізыка-тэхнічны, псыхонэўролёгічны, камісія дзеля вывучэньня Зах.Беларусі, жыдоўскі інстытут пралетарскай культуры, польскі інстытут пралетарскай культуры і інстытут пралетарскай культуры літоўскай, латыскай і інш. народнасьцяў Б.С.С.Р.

На базе НДІ социяльнай гыгіены, НДІ санітарыі і гыгіены створаны Інстытут сацыялістычнай аховы здароўя і гыгіены ў Менску пры Наркамоце аховы здароў'я. Навукова-дасьледчы адапталёгічны інстытут пры Наркамоце аховы здароў'я ліквідуецца, а функцыі яго перадаюцца адапталёгічнаму аддзелу менскага клінічнага гарадка.

# Usiačyna.

**VII Mižnarodny Kanhres Historykaŭ.** U kancy žniŭnia s. h. ŭ Varšavie adbyŭsia VII Mižnarodny Kanhres Historykaŭ, u jakim ad Biełaruskaj Akademii Navuk u Miensku prymaŭ udzieł praf. Horyn. Voś-ža hety „biełaruski“ pradstaŭnik, zamiest taho, kab zrabić dakład ab biełarusach, čytaŭ referat papolsku i ab praśledach carskimi ŭładami palakoŭ pad uładaj Rasiei. Jahony referat byŭ adzinym referatam čytanym papolsku, bo

 

inšyja čytali pafrancusku, paniamiecku, anhielsku. Ale, što-ž zrobiš? Vidać, tak sajuznyja „vłasti" prykazali.

**Pralacieli 10.000 klm. biaz prystanku.** Francuskija lɛtuny Rossi i Codos u žniŭni m-cy s. h. pralacieli 10.000 klm. biaz prystanku z Nju-Jorku ŭ Syryju. Lot ich tryvaŭ 54 hadz. i 45 m.

**Jak chto chutka lataje.** U adnu hadzinu pralataje: karšun 41, 4 klm., varona 50, 04 klm., knihaŭka 50, 04 klm., śnihir 52, 56 klm., kaŭka 61, 56 klm., špak 74, 16 klm., — a čałaviek na samalocie pralataje 300 i bolš klm. na hadzinu.

**Italjanskaja eskadra hydraplanaŭ viarnułasia.** Lot italjanskaj eskadry hydraplanaŭ zakončany. Usie aficery i žaŭniery, jakija brali ŭ im udzieł i pieralacieli z Italii ŭ Ameryku i nazad, atrymali pavyšeńni i naharody, a sam hien. Balbo jmienavany maršałam. Z adnym z hydraplanaŭ stałasia padčas pavarotnaha lotu katastrofa, ŭ vyniku katoraj zhinuła 2 aficeraŭ.

**Štučnaje vucha i mašyna pabudžajučaja bićcio serca čałavieka.** Švedzki dr. Vilhelm Nasill niadaŭna spreparavaŭ štučnaje vucha, jakoje moža viarnuć słuch čałavieku, kali taki byŭ utračany z pryčyny prarvańnia, abo rany vušnoha bubienka. — U Amerycy dachtary vydumali mašynu, jakaja pabudžaje bićcio serca, kali jano astanaŭlajecca.

**I ŭ vulkan łaziać.** Japonski vučony niadaŭna byŭ apuščany z navukovymi metami ŭ specyjalnym balonie na 450 m. ŭ krater (dziuru) vialikaha vulkanu Miharayana.

**860 movaŭ.** Pavodle hazetnych viestak, na ziamli ŭžyvajuć ludzi 860 movaŭ, z jakich 424 užyvajuć u Amerycy, 153 — u Azii, 118 u Afrycy, 117 u Aŭstralii i 48 u Eŭropie.

**2 miljardy ludziej.** Pavodle spravazdačy Lihi Narodaŭ, u prošłym hodzie lik usich ludziej na ziamli pieravyšyŭ 2 miljardy.

**Załata ŭ Meksyku.** U Meksyku adkryty novyja zaležy załata. Padobna buduć heta najbahaciejšyja zaležy na ŭsim śviecie.

## НАША ПОШТА.

М. Машары. Пісьмо і вершы атрыманы, пакульшто ўсё на месцы. Прывет!

Я. Вількоўшчыку. Два пісьмы і вершы атрымалі, як бачыце адзін з іх ужо друкуем. Абяцанае пісьмо было Вам высланае, — чаму Вы яго не атрымалі — ня ведаем... Жадаем удачы ў новых абставінах.

Ул. Берняковічу. Вершы атрымалі, пакрысе будзем карыстаць. Успомненае Вамі апісаньне хіба што ня зусім будзе падходзіць у „Шл М."

Дон-Сэвільлю. Прысланыя нам вершы ў сваей большасьці слабенькія. Кульгае ў іх форма і мова. Пасярод аднак іх ёсьць і лепшыя, але зьмест іх натолькі моцны, што пакуль-што яны сьвету, ці лепш можа—іх сьвет пабачыць ня зможа. Радзім Вам як найбольш чытаць прыгожае беларускае літэратуры, а так-жа папробаваць пісаць прозай. Заахвоцьце пры тым да гэтага сваіх калегаў. Адзін з Вашых codeршаў друкуем і надалей просім пісаць.

Byvałamu naviasielli L. S. u Harodnikach niedaloka Varejak. U Vašym apisańni viasiella ŭ Harodnikach vidać złosnuju asabistuju napaść na dziadźku Łucyjana dy jahonych svajakoŭ, dziela hetaha nia možna jaho drukavać u časopisi. Pry tym addajučy štoś u redakcyju da druku treba padać joj svajo praŭdzivaje proźvišča i adras. U apisańni viasiella zaŭvažyli my adnak u Vas zdolnaść da piara, dziela hetaha radzim jaho nia kidać, a navučyŭšysia dobra biełaruskaha pravapisu pisać štoś na temy ahulnyja, jakija ŭsich cikavili-b i prynosili karyść